№№163–164
(3702–3703)
19 кастрычніка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Поўным ходам ідзе падпіска на першую палову 2013 года. Не адкладвайце гэтую справу на позні час!**

# Парламент — зноў не месца для дыскусій? Старшыня Палаты прадстаўнікоў абраны на безальтэрнатыўнай аснове



**АВАЛЬНАЯ ЗАЛА**

## Першы крок па старым сцэнарыі

*У чацвер новаабраныя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў асвойваліся ў Доме ўрада. Высветлілася, што трое народных абраннікаў яшчэ нават не навучыліся галасаваць. Тым не менш першыя сур'ёзныя рашэнні прынятыя.*

Старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу пятага склікання абраны **Уладзімір Андрэйчанка,** які займаў гэтую пасаду ў ніжняй палаце мінулага склікання. За яго абранне прагаласавалі 105 са 108 дэпутатаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні. Тры бюлетэні былі прызнаны несапраўднымі — такім чынам, трое народных абраннікаў яшчэ нават не разабраліся, як галасаваць. Адзін чалавек на першую сесію па нейкіх прычынах не даехаў.

Уладзімір Андрэйчанка быў адзіным прэтэндэнтам на пасаду старшыні Палаты прадстаўнікоў. Яго кандыдатуру прапанаваў вопытны ўжо чалавек у калідорах улады — былы старшыня Ельскага райвыканкама, а апошнім часам дэпутат *Сяргей Канопліч.* Канопліч упадабаў Андрэйчанку за тое, што *"ён мае багаты вопыт парламентарызму"* і *"шмат зрабіў для прасоўвання Палаты прадстаўнікоў на міжнароднай арэне".*

Сам Андрэйчанка, выступаючы перад дэпутатамі, адзначыў, што перад новым складам парламента стаяць "маштабныя і значныя задачы". У прыватнасці, трэба будзе "дэталёва вывучыць" практыку прымянення выбарчага заканадаўства з улікам мінулых выбараў і ўнесці ў яго карэкціроўкі. Падобныя на тыя, якія рабіліся раней? Калі будзе так, то і ў чарговы раз на сур'ёзныя перамены можна не разлічваць.

Гаворачы аб міжнароднай дзейнасці, Андрэйчанка падкрэсліў, што неабходна "спыняць усе спробы размаўляць з намі сілай". Завучаная рыторыка! Там, дзе паважаюцца правы чалавека, дзе выбары праходзяць сапраўды дэмакратычна, дзе створаны нармальныя ўмовы для развіцця партый, — там ніхто нікога не павучае, там ніхто не робіць ніякіх спроб размаўляць з пазіцый сілы.

Але самае дзіўнае, што Уладзімір Андрэйчанка выказаў пажаданне, каб былі арганізаваны прамыя трансляцыі дэпутацкіх дыскусій па ТБ. Але як можна паказаць тое, чаго даўно ў беларускім парламенце няма?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### У ТЭМУ

*Цікава, што яшчэ падчас выбарчай кампаніі журналісты параўналі перадвыбарныя праграмы Уладзіміра Андрэйчанкі чатырохгадовай даўніны і цяперашняй. Аказалася, што яны мала чым адрозніваюцца. І ў 2008-м, і ў 2012 годзе ён падчас выбараў нічога канкрэтнага людзям не абяцаў. "Развіваць дзелавыя і сяброўскія кантакты з рэгіёнамі іншых дзяржаў", "удасканаліць падатковы клімат, ствараць прывабныя ўмовы для прадпрымальніцтва", "рыхтаваць і выхоўваць інтэлектуальны і творчы патэнцыял, грамадзянскасць і патрыятызм"... Такія абяцанні можна даваць бясконца.*

*Нагадаем, што Уладзімір Андрэйчанка абраны ў Палату прадстаўнікоў па Докшыцкай выбарчай акрузе.*

### КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

***Віктар Гумінскі*** *зноў абраны намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў. Гумінскі — своеасаблівы рэкардсмен. Ён абраны ў дэпутаты ўжо ў чацвёрты раз. Хаця гэтым разам ён змяніў акругу — з Барысаўскай гарадской перайшоў на Барысаўскую сельскую. Выпадкова? Вядома ж, не.*

У папярэдніх скліканнях ён займаў пасады намесніка старшыні і старшыні Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы. 4 чэрвеня 2010 года быў абраны намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў чацвёртага склікання.

Дэпутат скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае агульнавайсковае вучылішча, а таксама Ваенна-палітычную акадэмію імя Готвальда (ЧССР), Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Да дэпутацтва Гумінскі быў рознага рангу палітруком.

Патрэбны каментарыі?

### Падзялілі...

*Дэпутаты новага склікання Палаты прадстаўнікоў вызначыліся з лікам пастаянных камісій і іх назвамі*

Ужо на першым пасяджэнні першай сесіі Палаты прадстаўнікоў пятага склікання дэпутаты зацвердзілі рашэнне па колькасці і назвах пастаянных камісій.

Было вырашана, што ў Палаце прадстаўнікоў будзе 14 камісій, пры гэтым у назвах у параўнанні з мінулым скліканнем адбыліся некаторыя змены.

Вырашана, што будуць створаны пастаянныя камісіі:
— па заканадаўстве;
— па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце;
— па нацыянальнай бяспецы;
— па эканамічнай палітыцы;
— па бюджэце і фінансах;
— па аграрнай палітыцы;
— па пытаннях экалогіі, прыродакарыстання і чарнобыльскай катастрофы;
— па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ;
— па адукацыі, культуры і навуцы;
— па працы і сацыяльных пытаннях;
— па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы;
— па жыллёвай палітыцы і будаўніцтве;
— па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце і сувязі;
— па міжнародных справах.

Кадравыя пытанні па складзе камісій і іх кіраўніках будуць вырашаны пазней.

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ**

## Чыноўнікі пайшлі на паніжэнне

Як паведаміла прэс-служба канцэрна "Белдзяржхарчпрам", прызначаны новыя кіраўнікі на кандытарскія фабрыкі "Камунарка" і "Спартак".

Адно пажаданне Аляксандра Лукашэнкі выканана — на пасаду генеральнага дырэктара "Камунаркі" прызначаны былы старшыня канцэрна **Іван Данчанка**. А вось ніхто з намеснікаў кіраўніка канцэрна "Белдзяржхарчпрам" не захацеў мяняць свой кабінет і ехаць у Гомель. На пасаду генеральнага дырэктара СП ААТ "Спартак" прызначаны **Алег Жыдкоў**, які раней займаў пасаду кіраўніка справамі Гомельскага гарвыканкама. Хаця Аляксандр Лукашэнка рэкамендаваў аддаць гэтую пасаду каму-небудзь з былых намеснікаў Данчанкі. Праўда, ніякіх прозвішчаў не называў.

Абавязкі старшыні "Белдзяржхарчпрама" зараз выконвае першы намеснік старшыні канцэрна **Генрых Чарняк**.

Дарэчы, не выкананы і загад Аляксандра Лукашэнкі аб ліквідацыі на фабрыках назіральных саветаў акцыянераў. Ужо вядома, што назіральны савет "Камунаркі" збярэцца на пазачарговае пасяджэнне 26 кастрычніка. На ім павінна быць прынята рашэнне аб дадатковым выпуску акцый, каб дзяржава магла атрымаць больш паловы пакета прадпрыемства. Дата аналагічнага сходу на "Спартаку" пакуль не вызначана.

**СЕГОДНЯ: «ПРЯМАЯ ЛИНИЯ»**

## Опасный сезон

*На улице осень. Время, когда мы простужаемся, заболеваем ОРВИ и с ужасом думаем о том, что надо идти в поликлинику, где вечные очереди и недовольные пациенты.*

*— Как избежать сезонных синуситов?*
*— Правда ли, что осень — лучшее время для удаления аденоидов?*
*— Почему не прекращается насморк?*
*— Чем опасен храп?*



*На эти и другие вопросы ответит врач-оториноларинголог высшей категории, заведующая Центром семейной медицины ООО "ЛОДЭ"* ***Елена Николаевна ЗАВАДА.***

*Звоните* ***сегодня, 19 октября, в пятницу с 16.00 до 17.30*** *по телефону* ***328-68-41.***
*Присылайте вопросы на электронную почту* ***nv@promedia.by.***

**СЛЫШАЛИ?**

## Нигерийские пираты захватили белорусского моряка

При заходе в нигерийский Порт-Харкорт пираты захватили судно Liberty 249 французской компании Bourbon SA. Члены экипажа были взяты в заложники. Инцидент случился в понедельник 15 октября. Сейчас появилась информация, что на судне находился и наш соотечественник Сергей Курганович. По крайней мере, именно на этом судне он работал вторым механиком.

Об этом порталу TUT.BY сегодня, 17 октября, сообщил один из родственников Сергея. По его словам, захватчики забрали с собой 9 членов экипажа.

Информацию о захвате Liberty 249 уже подтвердили многие западные СМИ. В частности, ресурс Worldmaritimenews.com сообщает, что похитителями захвачены 7 членов экипажа, в числе которых 6 россиян и один эстонец, а остальные 9 моряков пока остаются на борту. О гражданине Беларуси в публикациях зарубежных СМИ пока не пишут, однако уже точно известно, что Сергей Курганович во время захвата находился на судне. Как удалось выяснить, перед выходом корабля в злополучный рейс Сергей должен был смениться, но его сменщик не явился в порт. А жена белорусского моряка на днях должна родить ребенка.

В офисе компании-оператора захваченного пиратами судна Bourbon Baltic, находящемся в российском Санкт-Петербурге, отказались давать какие-либо сведения об инциденте, сославшись на отсутствие информации. Однако там пообещали прокомментировать ситуацию позднее.

Единственным учреждением, в котором удалось получить вразумительный комментарий по существу, оказался белорусский МИД.

*— Мы в курсе случившегося и уже ведем работу по освобождению нашего соотечественника,* — сообщил глава пресс-службы Министерства иностранных дел Беларуси Андрей Савиных. — *Разумеется, эта работа будет проводиться в тесной координации с нашими российскими коллегами.*

**ВЕДАЙ НАШЫХ!**

## Удачы!..

*23 кастрычніка з Байканура стартуе экіпаж МКС-33/34, у складзе якога Алег Навіцкі — трэці беларус за ўсю гісторыю сусветнай касманаўтыкі. Ён і ўзначаліць асноўны экіпаж карабля «Саюз ТМА-06М», які паляціць на Міжнародную касмічную станцыю.*



У экіпажы разам з Алегам (*на фота ў цэнтры*) — расіянін Яўген Тарэлкін і амерыканец Кевін Форд. Пасля стыкоўкі наш зямляк будзе на караблі борт-інжынерам і вернецца на зямлю толькі праз паўгода...

У апошнія перадпалётныя дні больш за ўсіх хвалююцца родныя касманаўта — мама Валянціна Эдуардаўна, жонка Юля і дачка Яна. Звязацца з імі па тэлефоне цяпер проста немагчыма... Ды і ці варта?.. Нават школьная сяброўка Алега Святлана Адамовіч (яна жыве ў Чэрвені, працуе ў мясцовай "раёнцы") наадрэз адмовілася нешта каментаваць, прыгадваць са школьнага мінулага і цяперашняга — усе скрыжавалі пальцы... На ўдачу, на ўдалы старт і шчаслівае вяртанне. Праўда, раней жонка і дачка расказвалі журналістам, што яшчэ са школы Алег марыў стаць лётчыкам. А касманаўтыка — гэта ўжо працяг кар'еры, новая, больш высокая ступень. На думку Юлі, муж ніколі ўголас не прызнаваўся, што марыць пра космас, але ў глыбіні душы "гэта прысутнічала". І вось — збываецца.

Не варта думаць, што мара далася лёгка: толькі за час агульнакасмічнай падрыхтоўкі, якая доўжылася два гады, здаў 190 экзаменаў і залікаў. А трэніроўкі, бясконцыя фізічныя нарматывы, выжыванне ў пустыні, у лютую зімовую сцюжу, палёты на самалёце, шматлікія медыцынскія тэсты — усё гэта ў поўным аб'ёме і без усялякай "халтуры"! Космас не даруе павярхоўнасці ні на адным з этапаў падрыхтоўкі.

Да касманаўтаў цяпер не падабрацца нават самым блізкім людзям — каранцін... Перад стартам можна будзе хіба абмяняцца паглядамі, ды і то праз шкло. А далей — ужо сапраўдны зваротны адлік секундаў: "ключ на старт" — і гагарынскае "Паехалі!"...

І ўсё ж (пра тое хто з нас не думаў?..), як пачуваюць касманаўты непасрэдна перад стартам? Прыгадваю Яраслава Галаванава, калі ён апісваў (са слоў амерыканскага астранаўта Нэйла Армстранга, першага зямляніна, які ступіў на паверхню Месяца) перадстартавыя пачуцці. "Страх не з'яўляецца для нас незнаёмым пачуццём, — казаў Нэйл, — але мы, па сутнасці, не адчуваем страху перад гэтай экспедыцыяй..."

Нэйлу можна і трэба верыць. Значыцца, і нашым таксама, бо ўсе яны — людзі аднаго гарту, усе прайшлі адну і тую ж касмічную школу, якая пачыналася... з хлапчуковай мары. Мара вартая таго, каб дзеля яе прайсці потым агонь, ваду і медныя трубы; мара вартая таго, каб аднойчы з ілюмінатара карабля ўбачыць блакітную сваю планету Зямля — нават калі ў цябе замест 77 удараў сэрца ўсе 170... Такім быў пульс у заўсёды спакойнага і вытрыманага Нэйла Армстранга, калі ён садзіў свой пасадачны модуль на паверхню Месяца...

За дзесяцігоддзі практычнай касманаўтыкі мы прызвычаіліся да палётаў касманаўтаў і астранаўтаў — нават не ведаем усіх наперанік... Але ад гэтага космас не стаў нам домам родным. І таму, выпраўляючы ў чарговую экспедыцыю лепшых сваіх сыноў, мы кажам: удалага вам старту і шчаслівага вяртання!. Так было, ёсць і так будзе заўсёды. То хай жа пашчасціць Алегу і ягонаму экіпажу! Мы верым у ягоную шчаслівую зорку. І ганарымся ім.

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

### Дасье «Народнай Волі»

**Алег Навіцкі нарадзіўся ў горадзе Чэрвені Мінскай вобласці ў 1971 годзе. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у 1989 годзе ў Качынскае вышэйшае ваенна-авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў ім. А.Ф.Мяснікова. У 1994 годзе скончыў вучылішча з кваліфікацыяй "лётчык-інжынер". У 2004—2006 гадах вучыўся ў Ваенна-паветранай акадэміі ім. Ю.А.Гагарына (камандны факультэт).**

**. Да ўключэння ў атрад касманаўтаў Навіцкі каля 9 гадоў служыў у расійскіх Ваенна-паветраных сілах, ваяваў у Чачні. Зусім нядаўна (12 кастрычніка) Алег святкаваў дзень нараджэння. Родныя кажуць, што ён дужа любіць дранікі і беларускія песні, якія часцяком напявае з сябрамі. А як прыязджае дадому ў Чэрвень, то ахвочы да фізічнай працы — і дроў маці наколе, і яблыні ў садзе абрэжа, і аканіцы падфарбуе. А яшчэ кажуць, што ў школе, якую ён заканчваў, адкрыюць неўзабаве музей касманаўтыкі. Але гэта пасля вяртання з арбіты.**

**Зараз сям'я — Алег з жонкай і дачкой — жыве ў Зорным гарадку пад Масквой.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 КАСТРЫЧНІКА 2012 г.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# За что Боровского обвинили в коррупции?

*На пресс-конференции для российских журналистов А.Лукашенко вспомнил нынешнего гендиректора МАЗа Александра Боровского, который несколько лет назад был осужден.*

*"Непростая судьба у человека, — сказал Лукашенко про Боровского. — Из тюрьмы пришел руководителем производства, так сложилась судьба у человека — и министром был, и так далее. Ему 61 год. Вы знаете, я часто в шутку говорю: что, всех членов правительства через тюрьму провести, чтоб так работали? Он пришел на этот завод и говорит: я сделаю. Недавно орденом наградили человека. А если бы не этот кризис, я уверен, он бы еще дотопал до Героя Беларуси. Человек за 60, но фору любому даст..."*

*Напомните, пожалуйста, за что Боровский угодил в тюрьму и как стал гендиректором МАЗа?*

**Игорь ШАМАРИН, Минск.**

## Суть дела

"Народная Воля" освещала судебный процесс по делу экс-главы "Белнефтехима". Напомним, что Александра Боровского задержали в конце мая 2007 года — около 7 утра в своей квартире. Тогдашний генпрокурор **Петр Миклашевич** объявил журналистам об этом на пресс-конференции. Боровского обвинили в умышленном злоупотреблении служебными полномочиями, которые повлекли материальный ущерб в особо крупном размере.

"*По словам государственного обвинителя **Сергея Тележевича**, который зачитывал обвинение, 22 марта 2007 года предприятие "Нафтан" заключило предварительное соглашение с Тюменской нефтяной компанией на покупку 80 тысяч тонн легкой нефти по цене 330 долларов за тонну*, — сообщала подробности процесса белорусская пресса. — *23 марта Боровский, находясь в пути из Минска в Бобруйск, дал приказ гендиректору "Нафтана" и своему заместителю отказаться от сделки в пользу одной очень известной компании. 28 марта 2007 года предприятие "Нафтан" закупило 80 тысяч тонн нефти по цене 350 долларов за тонну с привлечением кредитов. Разница в цене составила около 1,6 миллиона долларов".*

Боровский во время судебного процесса своей вины не признал и утверждал, что "Нафтан", купив нефть по цене 350 долларов за тонну, все равно остался в прибыли.

Представители "Нафтана" в свою очередь говорили об упущенной выгоде.

Вел дело Боровского судья **Николай Гринцевич**.

Государственный обвинитель **Сергей Тележевич** просил для Боровского шесть лет лишения свободы, а также запрета занимать руководящие должности сроком на пять лет, без конфискации имущества, с требованием возместить ущерб, нанесенный от сделки с ОАО "Нафтан".

В своем последнем слове на суде Боровский сказал: *"Я чувствую вину и перед президентом страны, который мне всегда помогал, который доверял мне посты, действительно относился ко мне с уважением. И я очень виню себя, что позволил скомпрометировать себя в глазах президента определенной когорте людей, которые это дело, в принципе, сфабриковали. Я прощаю этим людям. Потому что я церкви строил, потому что я верующий... Есть еще Божеский суд — за то, что они натворили, их Бог накажет. А я их просто прощаю".*

Верховный суд вынес приговор: пять лет лишения свободы в колонии общего режима, лишение права занимать руководящие должности в государственных предприятиях, учреждениях и организациях сроком на три года.

## Кипрский счет

В зале суда Боровский рассказывал, что на первые допросы он ходил в состоянии аффекта, потому что сотрудники КГБ задержали его дочь.

По информации следователей КГБ, в одном из кипрских банков на имя дочери Боровского был открыт счет, на котором лежало 500 тысяч долларов. Естественно, возник вопрос, что это за деньги. В процессе предварительного следствия Боровский рассказал, что в декабре-январе 2007 года к нему подошел представитель одной известной фирмы, которому он в свое время оказывал консультационные услуги. Он сказал, что получил премию, которой хочет поделиться с Боровским — так сказать, отблагодарить его за полученные советы. Боровский пояснил, что у него нет счета в банке, и порекомендовал открыть счет на имя своей дочери. Через какое-то время Боровский попросил дочь проверить счета, однако пластиковая карточка, которую ей передали, почему-то не сработала ни в Вильнюсе, ни в Киеве, куда она ездила. Что это за карта и что за деньги, Боровский дочери якобы не говорил.

Боровский также пояснил суду, что фирма, с представителем которой он разговаривал, не имеет никакого отношения к нефтяному бизнесу, а занимается гостиничным бизнесом и строительством.

Любопытно, что позже на одном из допросов в ходе предварительного следствия Боровский отказался от данных им показаний относительно происхождения 500 тысяч долларов и заявил, что эти деньги он взял взаймы на постройку загородного дома у своего друга, который живет в Риге. По словам Боровского, следователи выезжали в Ригу, удостоверились, что имеются все расписки на руках его жены и рижского друга Боровского.

Через некоторое время в суде также прозвучало, что эти самые 500 тысяч затем куда-то пропали. А куда — Боровский якобы не знает.

Кстати, в зале суда выяснилось, что за несколько месяцев до ареста Боровского санкционированно прослушивались его телефонные разговоры, записи которых потом прослушали и в суде. Стоит заметить, что чересчур откровенные разговоры по мобильнику сгубили уже не одну известную персону в Беларуси...



## Тонкая игра

На судебном процессе Боровского фигурировало много громких имен — и приближенных к президенту бизнесменов, и высокопоставленных чиновников.

Например, Боровский рассказывал про тогдашнего шефа КГБ **Степана Сухоренко** — тот лично занимался его делом. Боровский писал на его имя письмо: мол, считает сложившуюся ситуацию недоразумением или халатностью, что у него не было сговора с руководителями некоторых известных коммерческих фирм, которые фигурируют в обвинении, и что никакого вознаграждения он от них не получал. Однако при этом Боровский указал, что готов перечислить в бюджет страны деньги (речь шла о сумме около полумиллиона долларов, которые следователи обнаружили на счету кипрского банка). Ссылаясь на здоровье, Боровский просил председателя КГБ походатайствовать перед А.Лукашенко о его освобождении. *"Я виновен, я во всем раскаиваюсь"*, — цитировал гособвинитель Боровского.

Во время следствия обращался экс-глава "Белнефтехима" и к Лукашенко. *"Уважаемый Александр Григорьевич, прошу простить меня за то, что опозорил ваше доверие, готов искупить свою вину...".*

Боровский говорил, что так называемые покаянные письма были написаны им не по собственной воле, а якобы по настоянию представителей КГБ.

Во время одного из заседаний судья задал Боровскому вопрос: может ли он объяснить, почему оказался в СИЗО? После некоторой паузы Боровский ответил: "*Я и сам до конца не понимаю, что произошло... Я восемь с половиной месяцев провел в СИЗО, и мне до сих пор многое непонятно... Непонятно, почему мне сразу предъявили столько обвинений. Могу сказать, что это очень тонкая игра против меня... Но чтобы во всем разобраться до конца, мне нужно быть на свободе..."*

## С белого листа

Лукашенко помиловал Боровского. И через некоторое время тогда еще глава Администрации президента Беларуси **Владимир Макей** представил коллективу МАЗа нового гендиректора.

*"Решение о смене руководства предприятия далось непросто*, — цитировало belta.by Макея.— *Как бы ни было обидно для прежнего руководства, но в последнее время с потерей экономических показателей на МАЗе уходила и уверенность, что предприятие справится со сложной ситуацией. И причина здесь не только в мировом кризисе. (...)Гендиректор МАЗа — фигура прежде всего политическая, исходя из тех значения и роли, которые занимает предприятие в хозяйственной иерархии страны... Сомневающимся скажу: выбор не случаен, Александр Боровский назначается генеральным менеджером, а не инженером и не генеральным конструктором, и ему не обязательно знать, наверное, методику расчетов нагрузки на ось автомобиля"*. По словам Макея, *"президент страны дал Александру Боровскому полный карт-бланш в наведении порядка во всех сферах жизни предприятия".*

Профсоюзный лидер **Александр Ярошук** называет Боровского *"неоднозначной фигурой"* и говорит, что "*его портрет нельзя рисовать только белой или черной краской — он обязательно должен быть цветным".*

В качестве гендиректора МАЗа Боровский дал пару пресс-конференций. Однако о тюрьме и о выводах, которые он сделал из этой истории, Александр Васильевич ни словом ни обмолвился. Может, не хочет ворошить прошлое, а может, и по каким-то другим причинам.

Кстати, как вчера сказали "Народной Воле" в приемной гендиректора МАЗа, с 19 октября он на две недели уходит в отпуск, а "*сегодня у него очень сложный день и вряд ли будет время даже на короткий разговор..."*

**Марина КОКТЫШ.**

КРОПКІ НАД «І»

# *Прэзідэнцкая бальніца пераедзе за мінскую кальцавую?*



*На прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў Аляксандр Лукашэнка зрабіў сенсацыйную заяву: у будынках 2-й Клінічнай бальніцы Мінска створаць прэзідэнцкую, а саму 2-ю клініку "мы перанясём куды-небудзь за горад".*

*Што меў на ўвазе кіраўнік дзяржавы?*

Справа ў тым, што 2-я Клінічная бальніца Мінска толькі ў лютым гэтага года справіла наваселле: клініка цяпер суседнічае з Рэспубліканскім клінічным медыцынскім цэнтрам Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, па-народнаму — лечкамісіяй. Прычым размясцілася гарадская бальніца ў карпусах, якія першапачаткова планаваліся як два новыя карпусы прэзідэнцкага медцэнтра. Але ў 2009 годзе Аляксандр Лукашэнка публічна заявіў, што чыноўнікам *"такая вялікая бальніца не патрэбна, і таму аддадзім яе гораду"*. У выніку два карпусы лечкамісіі, будаўніцтва якіх толькі пачалося, перадалі на сталічны баланс, і сюды ў гэтым годзе пераехала 2-я Клінічная бальніца Мінска, якая раней размяшчалася ў старым будынку на рагу вуліц Багдановіча і Купалы.

Пасля пераезду 2-я мінская клініка займела новыя аддзяленні, чатыры сучасныя аперацыйныя, новае абсталяванне. На яе базе адкрыўся Мінскі гарадскі кардыялагічны цэнтр.

Праўда, вуліца Энгельса стала шумнай і шматлюднай, з бясконцым патокам машын, якія іншым разам не могуць размінуцца на вузкай дарозе і ствараюць пробкі. І ўсё гэта адбываецца літаральна ў двух кроках ад Адміністрацыі прэзідэнта. На вуліцы Энгельса нямала грамадскіх будынкаў — тут і Тэатр юнага гледача, і кінатэатр "Піянер", і прэзідэнцкая паліклініка, хутка адкрыецца пасля рэканструкцыі былая гасцініца "Кастрычніцкая", зараз — "Прэзідэнт-гатэль". Але "пярэпалах" на вуліцы ўсё ж такі ў асноўным ствараецца з-за наведвальнікаў 2-га шпіталя: ну што зробіш, людзі едуць на кансультацыі, наведваюць хворых і г.д. Таму словы Аляксандра Лукашэнкі, што 2-ю клініку плануецца выселіць за горад, а тут "зрабіць рэканструкцыю з дапамогай замежнага інвестара" і "стварыць прэзідэнцкую бальніцу", хоць і выклікалі непаразуменне (будынкі ж новыя), але не сталі нечаканасцю.

Праўда, галоўны ўрач 2-й Клінічнай бальніцы Мінска **Сяргей Прусевіч** упэўнены: гарадская клініка з вуліцы Энгельса нікуды не пераедзе. Мы змаглі датэлефанавацца да галоўнага ўрача:

**— Сяргей Мікалаевіч, што меў на ўвазе Аляксандр Лукашэнка, калі ўзгадваў вашу бальніцу на прэс-канферэнцыі? Вы зноў пераязджаеце, гэтым разам за межы горада?**

— Вы пераблыталі.

**— Я альбо прэзідэнт?**

— Вы, напэўна.

**— Значыць, гаворкі пра пераезд вашай медустановы не ідзе?**

— У мяне няма інфармацыі пра тое, што мы пераязджаем з гэтага месца. Няма і ніколі не было. Працуем у звычным рэжыме.

**— А як вы лічыце: пераезд вашай бальніцы рэальны? 2-я клініка нядаўна змяніла прапіску, вы заехалі ў новыя карпусы, працуеце на сучасным абсталяванні...**

— Думаю, не рэальны. Як працавалі, так і будзем працаваць. Магчыма, іншае можа быць: пераезд лечкамісіі ў другое месца, за горад.

Куды канкрэтна можа пераехаць прэзідэнцкая бальніца, Сяргей Прусевіч не адказаў. Не даюць ніякіх каментарыяў на гэты конт і ў Рэспубліканскім клінічным медыцынскім цэнтры Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

— Наўрад ці Ірына Сцяпанаўна Абельская будзе вам каментаваць гэтую сітуацыю, — адказалі нам у прыёмнай галоўнага ўрача прэзідэнцкага медцэнтра. — Мы пра пераезд нічога не чулі.

Трэба адзначыць, што сакратар спрабавала нас звязаць па тэлефоне з галоўным урачом цэнтра, але Ірына Абельская па нейкай прычыне трубку не здымала. Магчыма, была занятая.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРАПАНОВА

# *У абарону ненароджаных дзяцей*

Больш за дзве тысячы подпісаў сабраны пад зваротам у Палату прадстаўнікоў з прапановай унесці змены ў закон аб ахове здароўя і значна ўскладніць правядзенне абортаў.

Разгляд змяненняў і дапаўненняў у закон аб ахове здароўя запланаваны на гэтую восень. Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь заклікала грамадзян краіны прыняць удзел у абмеркаванні праекта новага закона. У адказ юрыдычная камісія аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" падрыхтавала свае прапановы змяненняў. Вось асноўныя з іх:

— Увесці права для ўрача адмовіцца ад правядзення аборту, за выключэннем выпадкаў правядзення аборту па медыцынскіх паказаннях.

— Увесці абавязковы пяцідзённы перыяд чакання з моманту падачы заявы аб намеры зрабіць аборт да моманту яго правядзення.

— Абавязаць урачоў інфармаваць жанчын аб рэлігійных і грамадскіх арганізацыях, якія займаюцца прафілактыкай абортаў.

— Скараціць тэрмін для правядзення аборту да 7 тыдняў.

— Выключыць сацыяльныя паказанні для абортаў.

— Увесці забарону на правядзенне клінічных выпрабаванняў на чалавечых эмбрыёнах.

Пад ініцыятывай падпісаліся прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій.

**Да ведама.** З кожным годам беларусаў робіцца ўсё менш — наш народ вымірае. Нягледзячы на гэта, толькі за 2010 год у Беларусі было праведзена 33.300 абортаў! Іншымі словамі, 46,1% зачатых дзяцей у Беларусі не дажываюць да моманту нараджэння.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

*(Окончание. Начало в №№161—162)*

# Программа-минимум

*Так какие реформы нужны нашей стране? Экс-глава Национального банка, профессор Станислав Богданкевич продолжает тему.*

**Политико-правовая реформа.** Без политических и правовых реформ, без преодоления авторитарного режима проведение глубоких экономических преобразований и повышение уровня жизни невозможно. Нам необходимо восстановить принцип разделения властей, верховенства закона, независимости судебной власти, свободу СМИ, повысить эффективность государственного управления и создать механизмы для борьбы с преступностью и коррупцией. **Начинать преобразования следовало бы с восстановления цивилизованной иерархии правовых норм: Конституция — закон — указ, постановление правительства.**

Основой политических преобразований могла бы стать Конституция от 15 марта 1994 года, которая не утратила своей легитимности. Она закрепляла разделение властей, провозглашала принцип верховенства законов, содержала гарантии прав и свобод граждан. Подлежат восстановлению исторические символы белорусской государственности: герб "Пагоня" и бело-красно-белый флаг. Белорусский парламент — Верховная Рада — должен стать единственным законодательным и высшим представительным органом государственной власти, состоящим из одной палаты. Выборы следует проводить по смешанной (мажоритарно-пропорциональной) избирательной системе, избирательные комиссии всех уровней формируются на плюралистической основе исключительно по предложениям политических партий и внепартийных кандидатов, участвующих в выборах. Правительство формируется парламентом и станет самостоятельным органом исполнительной власти, подконтрольным парламенту.

Контрольные и надзорные органы передаются под контроль парламента. Упраздняются все органы и организации при главе государства. Восстанавливается функционирование при парламенте высшего органа государственного контроля — Контрольной палаты. Ее предназначение — осуществлять контроль за исполнением республиканского бюджета, использованием государственной собственности, исполнением актов парламента, регулирующих отношения государственной собственности, хозяйственные, финансовые и налоговые отношения. В ее составе на правах самостоятельного подразделения парламентом формируется специальный орган по борьбе с коррупцией.

На страже свобод и прав человека и гражданина, определенных Конституцией, учреждается специальный независимый орган — институт уполномоченного по правам и свободам. Он избирается парламентом. На этот институт можно было бы возложить и контроль за содержанием заключенных, предоставить право беспрепятственно посещать места их содержания. Объектами контроля должны стать СИЗО, тюрьмы и отделения милиции. Во-первых, предлагается отменить смертную казнь.

Во-вторых, предусмотреть судебный порядок получения санкций на заключение подозреваемых и обвиняемых в совершении преступлений под стражу. В-третьих, реально обеспечить соблюдение личных и политических прав и свобод. В случае нарушения указанных прав гарантировать их защиту в суде, в том числе путем подачи жалобы в Конституционный суд.

**Реформа административно-территориального устройства страны.** Областной уровень управления с его многочисленным аппаратом для компактной Беларуси представляется лишним звеном. Его предлагается упразднить, а районы укрупнить.

**Судебная реформа.** Основой судебной организации должны стать судебные округа. В каждом округе действует окружной суд, который рассматривает большую часть административных, гражданских, уголовных дел. Единственной надзорной инстанцией в системе общих судов является Верховный суд. По делам о тяжких преступлениях допустимо создание суда присяжных заседателей. Должен обеспечиваться демократический порядок формирования судов. Так, судьи высших судов (Конституционного суда, Верховного суда, Высшего Хозяйственного суда) должны избираться парламентом. Кандидатуры на эти должности могут вноситься республиканскими органами судейского самоуправления. Должности председателей Конституционного суда, Верховного суда и Высшего Хозяйственного суда должны стать выборными. Кандидатуры судей нижестоящих судов могут утверждаться в должности парламентом по совместному представлению республиканского совета судей и председателя соответствующего суда. В отношении судей низового звена судебной системы можно допустить назначение на должность министром юстиции по представлению судейского сообщества. Во всех случаях целесообразно установление определенных сроков пребывания в должности судьи с последующим продолжением полномочий.

**Прокуратура. Пенитенциарная система.** Прокуратура освобождается от общего надзора, занимается надзором за расследованием преступлений, поддержанием обвинения в суде и надзором за законностью в местах лишения свободы. Следственный комитет в качестве самостоятельного подразделения, а также вся пенитенциарная система передаются в ведение Министерства юстиции.

**Борьба с преступностью и коррупцией.** Концентрация власти в руках исполнительной власти без сдержек и противовесов со стороны парламента и судов, монополизация экономики, бесконтрольность чиновников и противоречивое законодательство, закрытость процесса распределения государственных ресурсов, слабость и зависимость силовых структур — вот основные источники коррупции и преступности в белорусском обществе. Предлагается система противодействия коррупции и преступности, которая включает в себя: создание единого контрольного органа, наделенного соответствующими полномочиями, но действующего под строгим контролем парламента и общества; четкое определение и обеспечение гарантий прав частной собственности, предполагающее как законодательную защиту через судебную систему, так и физическую защиту органами правопорядка; наличие механизмов гражданского контроля за деятельностью силовых структур, предполагающих, что только гражданские лица могут осуществлять руководство ими; законодательное определение материальной, социальной, физической и правовой защищенности государственных служащих в погонах, особенно высших должностных лиц; материальное обеспечение и эффективные механизмы функционирования правоохранительных и силовых структур: милиции, прокуратуры, Комитета государственной безопасности; обязательное декларирование источников доходов высшими должностными лицами всех уровней власти; наличие механизма люстрации государственных служащих за грубое нарушение индивидуальных контрактов, процедуры использования государственных средств, нанесение ущерба стране; открытость и прозрачность проведения аукционов и тендеров по государственным программам, конкурсное определение подрядчиков государства во всех экономических сферах; развитие рынка охранных услуг, строго регламентируемого государством.

**Местное самоуправление.** Функции государственных органов и органов местного самоуправления должны быть разграничены законом. Местная власть должна выражать интересы местного населения. Местное самоуправление будет строиться на следующих принципах: организационная самостоятельность (в рамках закона); финансовая самостоятельность; кадровая самостоятельность; правовая самостоятельность; налоговая самостоятельность. Высшим органом местного самоуправления является представительный орган. Он выносит решения по всем существенным вопросам местной жизни. Глава местной администрации может назначаться представительным органом либо избираться населением данной административно-территориальной единицы на определенный срок.

**Средства массовой информации.** Развитый, открытый рынок информации является гарантом прогрессивного развития общества. Конституционные нормы, гарантирующие свободу СМИ, должны неукоснительно выполняться. В этих целях парламентом страны будет учрежден Общенациональный совет по радиовещанию и телевидению, который должен стоять на страже свободы слова и соблюдения права на информацию.

Примечание. В настоящей статье заимствован ряд идей, высказанных Михаилом Пастуховым и другими авторами.

РУБАМ!

# Ці адновяць Васіля Якавенку ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў?

Усё, што адбылося ў апошнія гады з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, сёння ўяўляецца нейкім пачварным сном. Творчая суполка, у якую некалі ўваходзілі сусветна вядомыя класікі — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Іван Мележ, Васіль Быкаў... — здаецца, згубіла ўсё, што змагла нажыць за многія дзесяцігоддзі.

Страчаны Дом літаратара, паліклініка, шматтомная бібліятэка, Беллітфонд, сядзіба з Домам творчасці на Іслачы... Чытачы "Народнай Волі" памятаюць і пра гучны канфлікт паміж кіраўніцтвам Саюза і старшынёй Рэвізійнай камісіі Васілём Якавенкам. Ніхто і падумаць не мог, што тыя, хто павінен моцай усяго свайго таленту адстойваць дэмакратыю, свабоду слова, выключаць са складу СБП таго ж прынцыповага і ваяўнічага В.Якавенку.

Першы раз грамадства анямела, калі даведалася, якую форму барацьбы з уладамі абралі кіраўнікі Саюза — замест таго, каб касцьмі легчы, адстойваючы і бароначы Дом літаратара, яны, на здзіўленне, хуценька і ціха вызвалілі пакоі і пад бліскавіцы фотакамер вынеслі на водшыб унікальныя карціны-партрэты тых жа класікаў (многія з якіх, дарэчы, ад захоўвання ў нездавальняючых умовах згубілі сваю каштоўнасць).

І неўзабаве — выключэнне з пісьменніцкіх шэрагаў Васіля Якавенкі. Яго плённасць — у такіх мастацкіх творах, як гістарычны раман "Надлом", эпапея "Пакутны век", у якой падаецца суровая праўда пра трагічны лёс беларускага народа ў XX стагоддзі. Ён — вядомы грамадскі дзеяч, які шмат зрабіў для прадухілення экалагічнай катастрофы на Палессі ў 1980-я гады. В.Якавенка з болем успрыняў чарнобыльскую бяду, скіраваўшы свае высілкі на галоснасць і даследаванне архіважных для нацыі праблем. Яго голас чуваць і сярод тых, хто актыўна змагаецца за беларускую мову, гістарычнае адраджэнне Бацькаўшчыны.



Дык ці можна змірыцца з тым, што Васіль Якавенка з-за сваёй апантанасці апынуўся па-за межамі найстарэйшага ў Беларусі творчага аб'яднання? Днямі ў рэдакцыю "Народнай Волі" трапіў калектыўны ліст у падтрымку В.Якавенкі, які быў падрыхтаваны амаль два месяцы таму. Пад ім падпісаліся:

**Сцяпан Лаўшук,** *доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, член СБП з 1982 года;*

**Леанід Яўменаў,** *паэт, доктар філасофскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, член СБП з 1981 года;*

**Арсень Ліс**, *доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1986), член СБП з 1967 года;*

**Адам Мальдзіс,** *доктар філалагічных навук, прафесар, член СБП з 1967 года;*

**Аляксей Рагуля,** *прафесар культуралогіі, выдатнік народнай асветы, член СБП з 1990 года, сябра Рэвізійнай камісіі СБП у 2006—2011 гадах;*

**Лідзія Савік,** *прафесар кафедры беларускай філалогіі БДУ культуры, член СБП з 1998 года;*

**Анатоль Верабей,** *кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, член СБП з 1988 года;*

**Уладзімір Паўлаў,** *паэт, празаік, перакладчык, сакратар СПБ у 1980-я гады, член пісьменніцкай арганізацыі з 1962 года;*

**Уладзімір Дамашэвіч,** *пісьменнік, лаўрэат літаратурнай прэміі імя І.Мележа, член СБП з 1962 года;*

**Ніна Загорская,** *паэтэса, член СБП з 1982 года;*

**Эрнест Ялугін**, *пісьменнік, член СБП з 1972 года;*

**Уладзімір Халіп,** *драматург, член СБП з 1995 года;*

**Галіна Каржанеўская,** *паэтэса, драматург, крытык, член СБП з 1976 года;*

**Лідзія Арабей,** *пісьменніца, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, член Саюза пісьменнікаў з 1958 года;*

**Сяргей Панізьнік,** *паэт, перакладчык, член СБП з 1967 года;*

**Іван Пташнікаў,** *пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Колаа (1978), член СБП з 1959 года.*

Адрасуючы свой ліст сённяшняму старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Б.Пятровічу (Сачанку) і Радзе аб'яднання, гэтыя паважаныя ў творчым асяроддзі людзі настойліва прасілі **"падаць свой голас за аднаўленне Васіля Якавенкі ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў".**

Гэтае пытанне магло вырашыцца 25 верасня. Але, на жаль, Рада СБП у той дзень не змагла прыняць адпаведнае рашэнне з-за адсутнасці кворума.

Кажуць, цяжка было сабраць пісьменнікаў, паколькі да глыбокай восені амаль усе яны працуюць на лецішчах. Што ж, дачны сезон вось-вось закончыцца, а значыць, пра разгляд калектыўнага ліста пісьменнікаў і далейшы лёс Васіля Якавенкі чытачы "Народнай Волі", будзем спадзявацца, даведаюцца праз пэўны час, калі па-новаму збярэцца Рада.

**Кастусь ВІЛЬКОЎСКІ.**

РЕГИСТРАТУРА

# Кто будет производить отечественные лекарства?

*Перед фармацевтической промышленностью страны поставлена серьезная задача: выпускать не то, что она может, а лекарства, которые соответствуют современному уровню медицины и гарантируют качественное лечение.*

## Зарплаты в России начинаются с 3 тысяч долларов

Сегодня в Беларуси дефицит строителей, врачей, водителей... Среди предприятий, где зарплаты не удерживают работников, и фармацевтические заводы. Хотя, казалось бы, производство лекарственных средств — одно из самых прибыльных занятий. Сложно, наверное, найти человека, который хотя бы раз в жизни не принимал таблетки. Они нужны людям всегда, какой бы кризис ни переживала страна. Значит, всегда нужны те, кто их производит. Белорусские фармзаводы — а их сегодня 26 — тоже предприятия прибыльные. Рентабельность отрасли (соотношение затрат и прибыли) — 26%. А вот зарплатами довольны не все. Поэтому директора предприятий жалуются на текучесть кадров, а представители отрасли обеспокоены оттоком молодых специалистов.

— *Россия предлагает им гораздо больше,* — говорит заместитель директора по научной и инновационной работе Института биоорганической химии НАН Беларуси **Елена Калиниченко**. — *Там нашим специалистам предлагают от 3 тысяч долларов. Но очень важно удержать молодежь.*

Тем более сегодня, когда в Беларуси организовывается собственная система подготовки кадров для фармацевтической промышленности. Открыт факультет в Белорусском государственном медицинском университете. В Белорусском государственном технологическом университете начали готовить инженеров-технологов по органическому синтезу, которые будут задействованы в производстве субстанций, и инженеров-технологов по готовым лекарственным формам. *"Это то, чего остро не хватало нашей стране"*, — подчеркивает Елена Калиниченко. И, конечно, очень расточительно готовить кадры, а потом с ними расставаться.

Сколько же зарабатывают сегодня те, кто производит белорусские лекарства? Средняя зарплата по отрасли составляет почти 4 миллиона. Безусловно, это немного. *"Директора и тот научный потенциал, который создает лекарственные средства, по нашим меркам получают достаточно,* — высказывает свое мнение замминистра здравоохранения, директор департамента фармацевтической промышленности **Геннадий Годовальников.** — *Я пока не почувствовал, чтобы этот потенциал фармпромышленности начал разбегаться. Но если сравнить наши зарплаты с американскими и даже с польскими... Даже не хочется говорить, какая разница в окладах".*

## В погоне за качеством

Геннадий Годовальников признается: перед отраслью стоит важная задача — выпускать не то, что получается, а то, что затребовано временем — современные, эффективные и безопасные препараты. Сегодня на качество белорусских лекарств нарекают не только пациенты, но и специалисты. В прошлом году председатель Фармацевтической ассоциации, бывший депутат Палаты представителей **Валерий Лекторов** в одном из своих интервью жестко раскритиковал белорусских фармпроизводителей: *"Конкуренции у нас нет и, судя по всему, в ближайшее время не будет, так как все, что производят наши предприятия, с ходу закупается на бюджетные деньги и продается в госпитальные учреждения без тендеров".*

Выпускать современные лекарства, пусть даже не оригинальные препараты, а их аналоги, непросто: чтобы дженерики были идентичны оригиналу, надо выдержать все стандарты надлежащей производственной практики (GMP) на всех участках производственного процесса. Кроме того, наши заводы зачастую не готовы освоить выпуск некоторых препаратов, потому что не имеют необходимого оборудования. Поэтому одна из главных задач отрасли — модернизировать фармацевтические предприятия, привести выпуск отечественных лекарственных средств в соответствие с международными требованиями GMP. Разговоры об этом, правда, ведутся очень давно. Но сегодня, надеются представители отрасли, к выполнению этой задачи подошли совсем близко: для перехода на международные требования GMP издан указ президента, отрасли выделено около 100 миллионов долларов льготных кредитов и порядка 50 миллионов долларов на возможность закупки патентов на новые лекарственные средства, проведение регистрации клинических испытаний и на продвижение своей продукции. *"Это серьезные деньги для отрасли",* — подчеркивает Геннадий Годовальников.

В то же время он отмечает: *"Уровень рентабельности не позволяет нам отвлекать часть денег, чтобы строить дополнительные цеха"*. Поэтому департамент проводит большую работу по созданию совместных предприятий. "*Скидельский завод готовим под совместное предприятие с индийской компанией "Люпин",* — делится планами Геннадий Годовальников. — *Минский "Белмедпрепараты" и Борисовский завод медпрепаратов ведут переговоры с иностранными партнерами, в частности с турецкой компанией, которая готова выделить средства, а мы в свою очередь — вложить интеллектуальные возможности, трудовые человеческие ресурсы в совместное предприятие".*



НАРОДНЫЙ БАРОМЕТР

## Какие лекарства выбирают белорусы?

ООО "ЦМИ Фармэксперт" проводит мониторинг того, какие препараты покупают белорусы в аптеках.

— Массовый продукт — это дешевые лекарственные средства белорусского, российского и украинского производства, — говорит директор предприятия **Алексей Пряхин**. — В списке лидеров продаж, который мы определяем по количеству проданных аптеками упаковок, — цитрамон, анальгин, корвалол, валидол, активированный уголь, настойки валерианы, боярышника и т.д.

Что же касается рейтинга препаратов по вырученным за них деньгам (а не по количеству проданных упаковок), то он выглядит так:

**ТОП 10 отечественных и импортных ЛС (в денежном выражении)**

| **Белорусские препараты:** | **Импортные препараты:** |
| --- | --- |
| 1.Лизитар-ЛФ | 1.Серетид |
| 2.Три-зидин М | 2.Актовегин |
| 3.Мукосат | 3.Диабетон |
| 4.Цитрамон | 4.Траватан |
| 5.Лизиноприл | 5.Конкор |
| 6.Энаприл | 6.Эссенциале |
| 7.Протамин-инсулин ЧС | 7.Кардиомагнил |
| 8.Октанат | 8.Алфлутоп |
| 9.Иматиниб | 9.Терафлю |
| 10.Валериана | 10.Эгилок |

НЕМНОГО СТАТИСТИКИ

## Отечественные против импортных

Сегодня в Беларуси производится 1200 наименований лекарственных средств. Но позиций гораздо больше, потому что лекарство может выпускаться в разных дозировках, в разных консистенциях и т.д. 161 наименование входит в перечень социально значимых препаратов, цены на которые регулирует государство.

К слову, в 1992 году отечественных препаратов было только 100 наименований, в 2009-м — 700. Правда, от выпуска некоторых лекарств производители отказываются: они не пользуются спросом, устаревают технологии их производства и т.п. В этом году порядка 20 лекарственных препаратов были сняты с производства.

26 субъектов хозяйствования занимаются в Беларуси производством лекарственных средств. Флагманы отрасли — государственные предприятия: Борисовский завод медицинских препаратов и минский "Белмедпрепараты". Вдвоем они занимают порядка 76% от всего объема производимых в стране лекарств.

Средняя цена на белорусские лекарства сегодня меньше 1 доллара — 87 центов. Импортные стоят в 4 раза дороже — средняя стоимость импортного лекарства составляет 3,77 доллара. Наверняка это — и особенно в нынешний кризис — повлияло на выбор белорусов. В 70% случаев они покупают в аптеках белорусские препараты. Однако объем продаж отечественных препаратов в стоимостном выражении составляет всего 30%, следовательно, остальные 70% приходятся на зарубежные. Поставлена задача сравнять эти показатели, т.е. государство требует, чтобы денег от проданных на белорусском рынке отечественных препаратов было выручено столько же, сколько и от продажи импортных.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЧУЛІ?

## Нафта пайшла

*Новы нафтаперспектыўны блок выяўлены ў раёне Бярэзінскага радовішча нафты, якое знаходзіцца ў распрацоўцы.*

Пра гэта паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Паведамляецца, што "нафта лёгкая, рухомая, з высокім газавым фактарам". Свідравіна размешчана ў Жлобінскім раёне (Гомельская вобласць), яна была закладзена для пошукаў нафты ў міжсалявых адкладаннях.

Як адзначылі ў Мінпрыроды, звесткі, атрыманыя па дадзенай свідравіне, дазваляць выканаць планавыя заданні на 2012 год па прыросце прамысловых запасаў нафты ў аб'ёме 400 тысяч тон, што прадугледжана Праграмай асваення радовішчаў карысных выкапняў і развіцця мінеральна-сыравіннай Беларусі на 2011—2015 гады і на перыяд да 2020 года.

АБІТУРЫЕНТ-2013

## Мінадукацыі прапануе адмяніць асобны конкурс для вёскі і горада

*Адпаведная прапанова накіравана на разгляд зацікаўленым ведамствам.*

Як сцвярджаюць у ведамстве, за апошнія гады адбылося збліжэнне прахадных балаў выпускнікоў сельскіх і гарадскіх устаноў адукацыі і на кожную другую спецыяльнасць залічэнне праводзілася па агульным конкурсе. Таму Міністэрства адукацыі пры залічэнні ў ВНУ прапануе адмяніць асобны конкурс для вясковых выпускнікоў школ.

Нагадаем, што залічэнне ва ўніверсітэт па асобным конкурсе адбываецца пры ўмове, калі прахадны бал сельскіх абітурыентаў ніжэйшы за прахадныя балы гарадскіх, нават калі ад вяскоўцаў пададзена толькі адна заява.

## Будучых педагогаў будуць прымаць у ВНУ без іспытаў?

*Паводле інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства адукацыі Беларусі, ведамства выступіла з прапановай аб змене ўмоў залічэння на спецыяльнасці педагагічнага накірунку.*

Адным з прапанаваных нововаўвядзенняў з'яўляецца залічэнне без уступных экзаменаў абітурыентаў мэтавага накіравання, якія сталі пераможцамі абласных і Мінскага гарадскога этапаў нацыянальнай алімпіяды па профільным прадмеце. Аналагічнае права можа быць прадастаўлена абітурыентам, якія скончылі школу з залатым і сярэбраным медалём альбо ССНУ з дыпломам з адзнакай.

Прапануецца таксама прадугледзець у правілах прыёму пункт аб выдачы абітурыентам-мэтавікам спецыяльнай рэкамендацыі педсавета навучальнай установы, якую яны скончылі перад паступленнем.

СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

*Валер КАЛІНОЎСКІ*

*(Пачатак у №№145—146, 149—162.)*

# Самыя сумныя Каляды



У суботу 24 снежня 2011 года, не дачакаўшыся спаткання з сынам Алесем, Віктар Усцінавіч Бяляцкі памёр. На 83-м годзе жыцця.

Старому Бяляцкаму стала блага ў канцы жніўня, ужо пасля таго, як арыштавалі Алеся. Спачатку ўрачы падазравалі запаленне лёгкіх. Дыягназ "рак" яму паставілі 11 кастрычніка 2011 года. Да гэтага бацька трымаўся нядрэнна, яшчэ працаваў на лецішчы ў Ракаве, а жыў у Алесевай сястры Вольгі ў Мінску. Пасля 4 жніўня, калі арыштавалі Алеся, ад Віктара Усцінавіча нейкі час хавалі гэтую сумную навіну, стараліся адцягнуць ад тэлевізара, каб часам не пачуў, што пра гэта расказвае дзяржаўнае тэлебачанне. Але Віктар Усцінавіч чытаў незалежную прэсу, таму доўга ў таямніцы для яго гэты факт застацца не мог.

Да арышту Алеся і прысуду яму Віктар Усцінавіч паставіўся рэзка адмоўна, у размовах з нявесткай Наталляй ён станавіўся на бок сына, але больш ні з кім асабліва не абмяркоўваў гэтую тэму. Боль ён насіў у сабе.

"Апошняя размова ў нас была за тыдзень да смерці. Я была ў яго ў нядзелю 18 снежня. Бацька яшчэ сеў, хапіла сіл на гэта. Спытаўся, як там што. Я яму кажу: "Бацька, вы ж ведаеце, што па-іншаму нельга было..." Ён кажа: "Я ўсё, Наташа, разумею". Ён цалкам апраўдваў, ведаў, што інакш Алесь не мог учыніць, што з'ехаць яму проста нельга было, — распавядае Наталля. — Бацька ўсё разумеў, але гэта не змяншала ягонага болю за сына".

Алесь Бяляцкі даведаўся пра бацькаву хваробу за некалькі дзён да суда з ліста жонкі. Калі Наталля прыйшла па выкліку ў суд у якасці сведкі, першае яго пытанне да яе было: "Як бацька?"

Пасля 24 снежня зноў трэба было прасіць дазволу. Але ўжо не на спатканне, а на пахаванне. Наталля адразу пасля навіны пра смерць свёкра паехала ў МУС. Там па выхадных ідзе прыём наведвальнікаў у экстранных выпадках. Але ёй не дапусцілі да супрацоўніка, які вёў гэты прыём. Тады Наталля накіравалася ў Дэпартамент выканання пакаранняў, напісала заяву з просьбай даць дазвол на ўдзел Алеся ў пахаванні бацькі. Заяву прынялі і паабяцалі прыслаць адказ поштай. У панядзелак 26 снежня Наталля пакінула такія ж заявы ў Генеральнай пракуратуры, МУС і судзе. У Першамайскім судзе 26 снежня выдалі дазвол Алесю прысутнічаць на хаўтурах у Светлагорску, дзе сваякі вырашылі пахаваць Віктара Усцінавіча побач з ягонай жонкай. У гэты дакумент суддзя Высоцкая нарэшце ўпісала распараджэнні даставіць Алеся на пахаванне — на адрас ГУУС Мінска, абласной управы міліцыі і Жодзінскай турмы.

"Начальніку ГУУС Мінгарвыканкама, начальніку УУС Мінаблвыканкама, начальніку ПУ "Турма № 8". Аб дазволе на вываз абвінавачанага з СІЗА...

Суд Першамайскага раёна горада Мінска дазваляе вываз Аляксандра Віктаравіча Бяляцкага пад канвоем з турмы №8 горада Жодзіна для ўдзелу ў пахаванні бацькі 27 снежня 2011 года ў горадзе Светлагорску з вяртаннем яго неадкладна ў гэты ж дзень у ПУ "Турма №8 горада Жодзіна" без змянення яму меры стрымання пры ўмове забеспячэння аховы і бяспекі ў час шляху следавання і мерапрыемства".

Атрымаўшы гэты дакумент, Наталля патэлефанавала ў мінскую міліцыю. Там сказалі: "Нічога не ведаем, перателефануйце праз паўгадзіны". І так некалькі разоў. Яснасці, ці адпусцяць Алеся, не было да канца дня. Увечары міліцыянты шэсць разоў тэлефанавалі ў кватэру да сястры Алеся, у тым ліку ўдакладнялі, хто ў ёй жыве. Заходзіў таксама ўчастковы — нібыта шукаў сведак, як у двары пабілі шыбу ў машыне.

"Яны так і не сказалі, што Алеся прывязуць на пахаванне, але я пасля ўсяго гэтага зразумела, што развітанне з бацькам рыхтуецца", — згадвае Наталля.

Раніцай 27 снежня, у дзень пахавання, Наталля прыехала ў Мінскі морг разам з сястрой Алеся Вольгай і ягоным братам Уладзімірам.

Каля брамы іх спынілі тры супрацоўнікі ў цывільным, спыталі: "Вы хто?", але дакументы не правяралі і прапусцілі далей. У двары морга стаяў міліцэйскі мікрааўтобус і машына суправаджэння ДАІ.

Непадалёк ад уваходу ў морг стаяла група мужчын у цывільным, чалавек пяць. Наталля падышла да іх, спадзеючыся ўбачыць Алеся. Адзін з іх, старэйшы за астатніх, гадоў каля сарака, сказаў:

— Развітанне з бацькам адбылося... Тое, чаго вы хацелі.

— Ну як так можна!.. Бацька ў труну не пакладзены, не накрыты, не падрыхтаваны... Гэта вы з халадзільніка дасталі цела? І гэта апошняе, што запомніць сын, развітваючыся з бацькам... Як так бесчалавечна можна ўчыніць?

Каб неяк стрымацца і не заплакаць, Наталля развярнулася і сышла.

Праз некалькі хвілін той самы супрацоўнік у цывільным паклікаў Наталлю і спытаў пра труну, ці тут яна. Потым даў дазвол, каб машыну з труной прапусцілі ў двор морга, і сказаў: "Няхай пакладуць бацьку ў труну, мы вам дамо нейкі час развітацца з ім разам з Алесем". Калі супрацоўнікі морга ў рытуальнай зале паклалі бацьку ў труну, накрылі цела, Наталлі, Вользе і Уладзіміру дазволілі зайсці, а праз хвіліну Алеся ўвялі з вуліцы. Без кайданкоў, але ў суправаджэнні аднаго ахоўніка. У рытуальную залу зайшла і тая група аператыўнікаў у цывільным.

Алесь, калі заходзіў, заўважыў, што ягоны старэйшы брат Уладзімір, які прыехаў на пахаванне з Сібіры, у здранцвенні не зняў шапкі каля нябожчыка. Алесь абняўся з братам і зняў з яго шапку... У сямейным коле пры труне некалькі хвілін пагутарылі пра апошнія дні бацькі. Аператыўнікі між тым здымалі ўсё гэта на відэа, камеру часам падносілі вельмі блізка да самых прысутных. Хвілін праз дзесяць Алесю сказалі, што пара сыходзіць.

Развітваючыся з жонкай, ён сказаў: "Абдымацца будзем потым. Хутка ўжо". Але тады Наталля гэтых слоў нават не пачула, толькі потым іх пераказала Алесева сястра Вольга. На само пахаванне ў Светлагорск Алеся з турмы не адпусцілі.

Пазней у лісце жонцы ад 5 студзеня Алесь напісаў, што сустрэча пры бацькавай труне была вельмі сумная: "Але добра, што так атрымалася, іначай я б адчуваў сябе вельмі кепска. Я і так адчуваю сябе вінаватым, што не змог быць на пахаванні. Ды нічога не зробіш".

Як выявілася на развітанні ў моргу, пра смерць бацькі Алесь даведаўся толькі ў дзень пахавання, яму пра гэта паведамілі раніцай 27 снежня перад ад'ездам у морг.

25 лютага 2008 года, калі памерла Ірына Казуліна, жонка іншага беларускага палітвязня Аляксандра Казуліна, яго адпусцілі на пахаванне на тры дні. Алесю ж на развітанне далі менш за гадзіну. Розніца фармальна тлумачыцца тым, што Казулін у той момант быў у статусе асуджанага і скарыстаў працэдуру, прадугледжаную Крымінальна-выканаўчым кодэксам, а Алесь на момант смерці бацькі быў асобай, якая ўтрымліваецца пад вартай, бо ягоны прысуд у законную сілу не ўступіў. Для гэтай катэгорыі грамадзян такая працэдура законам не прадугледжаная наогул.

На развітанне з Віктарам Бяляцкім у Светлагорску прыйшло шмат сваякоў, суседзяў, сяброў. Пераважна пажылыя людзі. Гаварылі пра тое, як паўплываў на здароўе нябожчыка арышт ягонага сына, шкадавалі, што Алесю не далі развітацца з яшчэ жывым бацькам.

Пахавалі Віктара Бяляцкага на светлагорскіх могілках побач з жонкай Нінай Аляксандраўнай. Маці Алеся памерла ў 1994 годзе пасля інсульту. Гэта здарылася паміж першым і другім турамі першых выбараў прэзідэнта Беларусі, калі стала зразумела, што ў Беларусі з'явіцца новы кіраўнік. Згадваючы свой душэўны стан у той перыяд у кнізе "Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера", Алесь Бяляцкі абраў слова "спустошанасць".

Мая перапіска з галоўным героем гэтай кнігі пачалася ў красавіку 2012 года, калі ён ужо больш за паўгода правёў у турме. Я дасылаў Алесю пытанні, ён дасылаў падрабязныя адказы. Сведчанні "з першых вуснаў" істотна дапаўнялі агульную карціну, стваралі эфект прысутнасці, тлумачылі тое, што мог патлумачыць толькі Алесь.

Пра сваіх бацькоў Алесь напісаў у лісце з Бабруйскай турмы:

"Калі антыкамунізм у маці быў прыродным і стыхійным, выходзіў з рэалій праўды жыцця — яна не любіла камуністаў так, як не любіць просты чалавек любое начальства, — то ў бацькі гэтая пазіцыя мела ўнутранае ідэалагічнае абгрунтаванне. Ён успрымаў калектывізацыю як катастрофу адладжанага дабрабыту ягонай сям'і, ён прынцыпова не ўступаў у камуністычную партыю, хаця я памятаю, як да нас у кватэру ў Светлагорску прыходзілі і ўгаворвалі яго туды ўступіць. Ён па жыццёвых абставінах, маючы адукацыю ўсяго 8 класаў, быў чалавекам унутрана інтэлігентным, з пэўнымі маральнымі правіламі. Яны вельмі добра жылі з маці, душа ў душу. Ён ніколі на яе нават голасу не павысіў. Пасля смерці маці ў 1994 годзе бацька так і застаўся адзін.

Калі я заняўся грамадзянскай дзейнасцю, ён заўсёды падтрымліваў мяне. Гэтак жа ён падтрымліваў мяне і пасля арышту. Ён лічыў усё слушным, што я рабіў у апошнія гады, і лічыў, што мяне арыштавалі несправядліва з-за маёй грамадскай праваабарончай дзейнасці. І для мяне ягоная падтрымка ў турме была вельмі важнаю. Я лічу, што многія рысы характару да мяне перайшлі па спадчыне і крыві ад бацькі".

Бацька і маці Алеся Бяляцкага Віктар і Ніна (у дзявоцтве Кавальчук) пазнаёміліся і ажаніліся ў Расіі, у Карэліі, куды іхня сем'і паехалі па савецкай вярбоўцы. Але абое паходзілі з Гомельшчыны, Віктар — са шляхецкага роду Бяляцкіх з мястэчка Гарадзец Рагачоўскага раёна, Ніна — з вёскі Буда-Красноўская Нараўлянскага раёна (вёску адсялілі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС).

"Сям'я майго бацькі ў 1940 годзе выехала з Рагачоўскага раёна на забраныя Савецкім Саюзам у Фінляндыі карэльскія землі. Выехалі, уцякаючы ад калгасаў і калектывізацыі. Тады ў Беларусі не было чаго есці, і дзеці проста пухлі ад голаду. Як распавядаў мой бацька, яны апынуліся ў Карэліі ў такім перадкалгасным раі. Іх рассялілі па хутарах карэлаў, якія так хутка ўцякалі ад СССР, што пакінулі ўсё, што было ў хаце", — пераказваў гісторыю сваёй сям'і Алесь Бяляцкі ў інтэрв'ю газеце "СНплюс".

Маці Алеся Ніна Аляксандраўна ў Карэлію трапіла ўжо пасля Другой сусветнай вайны, калі ёй было 18 гадоў. Яна была другая па старшынстве ў сям'і. Старэйшы брат застаўся ў вёсцы, там і пражыў сваё жыццё, а малодшыя ўсе паехалі за Нінай, выходзілі замуж, жаніліся і раз'язджаліся ў розныя бакі.

Алесь Бяляцкі нарадзіўся ў Карэліі, у мястэчку Вяртсіля Сартавальскага раёна 25 верасня 1962 года. Назвалі яго ў гонар дзеда па матчынай лініі, які загінуў на вайне.

Алесю было два з паловай гады, калі бацькі вярнуліся ў Беларусь. Яны ўсё жыццё працавалі на Светлагорскім хімзаводзе: бацька — брыгадзірам слесараў, маці — доўгі час апаратчыцай, а перад пенсіяй — круцільшчыцай.

"Нягледзячы на тое, што бацька больш за 20 гадоў жыў у Карэліі, ён і ягоныя сёстры і браты заўсёды марылі вярнуцца ў Беларусь. У 60-я ў Беларусі пачалі будаваць вялікія прамысловыя аб'екты, набіралі працоўных, частка беларусаў вярталася на радзіму. Калі перад маёй сям'ёй у 1964 годзе паўстаў выбар — Светлагорск ці Салігорск, то бацькі выбралі Светлагорск, бо ён быў бліжэй да радзімы і бацькі, і маці", — распавядаў Алесь газеце "СНплюс".

У Светлагорску Алесь скончыў сярэднюю школу №5, а ў 1979 годзе паступіў у Гомельскі ўніверсітэт на беларуска-расійскае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэта.

...Суэр Белхасэн, наменсікам якой у Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека з'яўляецца Бяляцкі, выказваючы ў лісце спачуванні Алесю, успомніла, як за год да гэтага падчас іх сумеснай місіі ў Кыргызстане Алесь падтрымаў яе, калі прыйшла сумная вестка з Туніса, што памёр яе бацька:

"Страта бацькі — гэта страшны парог у жыцці кожнага. Але як уявіць сабе боль пасля гэтай страшнай весткі, атрыманай у зняволенні, удалечыні ад блізкіх і родных, сярод бяздушных турэмшчыкаў і глухіх сцен, у краіне, улада якой даўно забылася не толькі пра справядлівасць і законнасць, а проста пра элементарную чалавечнасць? За тваю прынцыповую пазіцыю і дабро, якое ты зрабіў столькім людзям, рэжым працягвае помсціць. Помсціць нізка і подла, але і балюча... Словы — нішто ў такі момант. Але ўсё ж мне хацелася б, каб ты ведаў: ні ў тваім горы, ні ў тваёй штучна створанай адзіноце насамрэч ты не самотны! Мы ўсе з табой у гэты цяжкі час".

СІТУАЦЫЯ

## Футбольная каманда «Брэст» чакае выплаты заробкаў

Футбольная каманда "Брэст" скардзіцца на затрымку заробкаў. Некалькі дзён таму яна аб'явіла байкот і адмовілася прымаць удзел у гульні з луцкай камандай "Валынь". Умовай гульцоў стала выплата запазычанасцяў.

За месяц заплацілі — каманда адыграла. Паводле сцвярджэння гульцоў "Брэста", як сітуацыя будзе развівацца далей, залежыць толькі ад спонсараў.

Капітан футбольнай каманды Віталій Гайдучык адзначыў, што футбалістам павінны выплаціць заробак за некалькі месяцаў.

"Збіралася, збіралася і цяпер назбіралася ў некаторых за 4 месяцы запазычанасць, у некаторых за 3, у некаторых за 2 месяцы, — гаворыць Гайдучык. — Мы вырашылі, што нам павінны выплаціць хаця б заробак за адзін месяц гульні з Валынню, інакш мы не выйдзем на гульню. Старшыня выканкама выклікаў трэнера да сябе, сказаў, што пасадзейнічае, выдзеліць крэдыт у памеры двух мільярдаў і нам пагасяць у бліжэйшы час даўгі".

Дырэктар футбольнага клуба "Брэст" Мікалай Харашун адмовіўся каментаваць сітуацыю. Ён адзначыў, што такое пытанне — гэта іх унутраная справа.

ПРАЕКТЫ

## Масква і Мінск дамовіліся аднавіць сядзібу Дастаеўскіх пад Брэстам

Дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі Рыгор Рапота, міністр культуры Расіі Уладзімір Мядзінскі і кіраўнік беларускага Мінкульта Павел Латушка правялі нараду, падчас якой дамовіліся аб аднаўленні сумеснымі намаганнямі сядзібы Дастаеўскіх на тэрыторыі Брэсцкай вобласці.

Як паведаміў Павел Латушка, гаворка ідзе аб аднаўленні гістарычнага месца — сядзібы роду Дастаеўскіх, з якога паходзіць пісьменнік Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. *"На сённяшні дзень мы гаворым пра неабходнасць распрацоўкі праектна-каштарыснай дакументацыі для аднаўлення шэрагу пабудоў",* — растлумачыў Латушка.

Яшчэ адзін сумесны праект — "Першая сусветная", прысвечаны стагоддзю з пачатку Першай сусветнай вайны. У планах таксама ўстаноўка помніка Сімяону Полацкаму ў Маскве і стварэнне мемарыяла-помніка, прысвечанага аперацыі "Баграціён", якая пачалася ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі.

РЭХА

# Толькі пад родным сцягам прыйдзе свабода!

*Немагчыма не падзячыць ад усёй душы нашаму таленавітаму, слыннаму паэту Анатолю Вярцінскаму, які, памятаецца, глыбока і пачуццёва выказаўся пра незаменную нашу каштоўнасць — святы нацыянальны сцяг у артыкуле “Сага пра белае з чырвоным”.*



Сёння кожны, хто сябруе са сваёй галавой, разумее: вырашэнне хоць бы якой праблемы, не кажучы ўжо, напрыклад, аб правядзенні дэмакратычных выбараў, тым больш аб захаванні незалежнасці краіны і развіцці дэмакратычных інстытутаў у Беларусі, немагчыма без вяртання таго, што мы згубілі, калі ўлады растапталі нашу гісторыю. Будучыня Бацькаўшчыны — годная і прыгожая — немагчыма без нашых найдарожшых святынь, перададзеных продкамі са старажытных часоў герба “Пагоня” і бел-чырвона-белага сцяга. Яны, паводле першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, былі абвешчаны і ўзняты як дзяржаўныя сімвалы.

Без такіх сімвалаў не існуе ні адна краіна. Яны ўвасабляюць сабой гісторыю, сучаснасць і будучыню грамадства, яго перспектыву. Без гэтых сімвалаў, выверaных вякамі барацьбы за незалежнасць суверэннай краіны, нельга выхаваць сапраўдных патрыётаў.

Я ўжо чую лямант апанентаў, маўляў, пра што размова: у нас жа зараз ёсць і сцяг, і герб, і гімн. Так, сапраўды ёсць. Але з такімі сімваламі мы вяртаемся ў савецкае мінулае. А нам трэба — наперад! Бо, зняважыўшы і выкінуўшы нашы святыні, пад новымі сімваламі мы нічога, чым можна было б ганарыцца, не дасягнулі. Краіна патанае ў галечы і чыноўніцкай хлусні, пад небяспекай ператварэння ў бяспраўную расійскую губерню. Ну, ды гэта мы ўжо праходзілі, ды цяпер свеціць куды горшы варыянт. А менавіта — стаць ізгоямі гісторыі ўжо ў трэцім тысячагоддзі, калі пасля распаду СССРаўскай камуністычнай імперыі яе былыя калоніі — так званыя “рэспублікі” — атрымалі незалежнасць. У першую чаргу яны вярнулі свае гістарычныя сімвалы, зрабілі свае мовы адзінадзяржаўнымі. Мы ж не ўтрымалі святыні і ўсё яшчэ застаёмся ў путах савецкай ментальнасці і традыцый, выракаемся роднай мовы і сваёй кроўнай нацыянальнай сімволікі.

Гэты сумны феномен пакуль дакладна яшчэ не разгаданы. Таму і стаіць пытанне рубам: хто мы — народ ці нейкія зломкі? Мо наогул амёбы? Няўжо не сорамна быць нікім і нічым на сваёй зямлі, не жыць — існаваць паводле чужой нядобрай волі? У нас былі годныя, мужныя продкі, яны з нашым бел-чырвона-белым сцягам і гербам “Пагоня” баранілі родны край ад сквапных і жорсткіх чужынцаў, перадалі нам свой неацэнны дар. Хіба дзеля таго, каб мы моўчкі цярпелі глум і здзек з самага дарагога, мірыліся з тым, што лепшых сыноў Бацькаўшчыны кідаюць за калючы дрот як крымінальнікаў, а простых працаўнікоў выкідваюць без дай прычыны на вуліцу згодна з драконаўскай кантрактнай сістэмай?

Зараз пад чырвона-зялёным сцягам у шыкоўных кабінетах сядзяць тыя, хто ахвотна нярэдка забараняе, насуперак Канстытуцыі, мірныя шэсці, мітынгі, пікеты, а “незалежныя” суддзі штампуюць патрэбныя ўладзе прыгаворы. Пад чырвона-зялёным сцягам вырашаецца, якія газеты нам чытаць, якія тэлеканалы глядзець, а якія не. Больш за тое — на якой мове вучыць нашых дзяцей, калі бальшыня школ — рускамоўныя, а беларускамоўных ВНУ няма і ў паміне. Ад нас фактычна патрабуюць: станьце як найхутчэй рускімі, адрачыцеся ад сябе саміх дзеля задаволення амбіцый і небескарыслівых разлікаў хцівых палітыкаў. Пад чырвона-зялёным сцягам рабуюцца нашы нацыянальныя багацці, створаныя не адным пакаленнем беларусаў, якім наканавана канчатковае жабрацтва і рабства.

Сёння патрэбна не толькі спадзявацца на лепшае, але і змагацца, каб як мага хутчэй Беларусь стала вольнай, сапраўды незалежнай і дэмакратычнай краінай пад бел-чырвона-белым сцягам і гербам “Пагоня”. Каб мы бачылі ў назвах вуліц імёны нашых герояў — даўніх і сучасных. Далоў леніных, свярдловых, дзяржынскіх, урыцкіх і ім падобных з беларускіх гарадоў, пасёлкаў і вёсак...

**Мікола КАНАХОВІЧ,**
**ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

БОЛЬ

## *Як нас адвучвалі ад мовы*

Добры дзень, паважаная рэдакцыя паважанай газеты!

Мне хацелася б падзяліцца з Вамі гісторыяй пра адзін выпадак з майго дзяцінства.

Калі я пайшла ў першы класс (1993 год) на адным з заняткаў настаўніца, паказваючы на малюнак з цукеркай, запыталася ў мяне: “Што гэта?” Я і адказала, што гэта цукерка. Але настаўніца не пагадзілася са мной І зноў паставіла тое ж самае пытанне, а я зноў сказала, што гэта цукерка. Мой адказ быў не такі, які хацела пачуць мая настаўніца. А мне, ведаеце, хацелася плакаць, я глядзела на малюнак так уважліва і не магла зразумець, чаму ж гэта не цукерка. А аказваецца, гэта была “конфета”. Проста ў той час уся мая сям’я размаўляла толькі на беларускай мове.

**Ірына РЭПІЧ,**
**на той час жыхарка**
**Доўска, зараз — Лоева.**

ПРЕДЛАГАЮ!

## *Хватит играть, пора читать*

В моей домашней библиотеке, к сожалению, мало произведений Владимира Короткевича. Обратилась в библиотеку имени А.С.Пушкина. Мне выдали четыре книги этого великолепного писателя. Но в каком состоянии эти книги! “Колосья под серпом твоим” — год издания 1977-й (!). Обложка самодельная, название книги написано шариковой ручкой. Листы прошнурованы: книга плохо открывается, читать неудобно. Книга вся в каких-то подтеках (то ли кровь, то ли мазут). Она просто... грязная. Судя по листку выдачи, роман востребован.

Благодаря добрым, милым женщинам-библиотекарям и несмотря на их мизерную зарплату, сохраняются книги.

У меня есть предложения: построить одним ледовым-медовым затратным дворцом меньше, а издать хотя бы классиков белорусской литературы и передать их произведения в общественные библиотеки. При этом не забыть о Владимире Короткевиче!

**П.В.СОРОКИНА,**
**учитель на пенсии.**

*Витебск.*

ТАКАЯ ЖИЗНЬ

# У них — соревнование!

Уважаемая “Народная Воля”!

Я пришла к выводу, что единственная газета в Беларуси, которая напишет правду, это Вы. Поэтому хочу изложить Вам свои мысли по поводу последних инициатив власти.

Электроэнергия. Я все ждала и верила, что кто-то из чиновников, которые знают жизнь села, что-то скажет против такого метода оплаты электричества. Или же кто-то из социальных работников. Но либо никто не знает и знать не хочет проблем простого человека, либо же до того боятся за свои кресла, что не хотят открывать рот, чтобы сказать правду. Я опишу свои затраты на электроэнергию. Знаю, что такое же положение у очень многих семей.

У меня семья из двух человек: я и сын. Иногда приезжает в гости дочь со своей семьей (3 человека). Я плачу в месяц за 300—400 кВт электроэнергии. Централизованного подведения воды у нас нет на многих улицах. Поэтому в доме у меня стоит мини-башня, которая работает на электричестве. Бойлер на 80 литров греется тоже от электричества. Если берешь воду из бойлера, чтобы помыться самому или помыть горячей водой посуду, включается башня и бойлер. Унитаз тоже требует воды, которую дает мини-башня. Холодильник, стиральная машина, морозильник, чайник, утюг, газовая плита, которая поджигает газ электричеством, кухонный комбайн, хлебопечка, телевизор, люстры-лампы... Назовите хотя бы одну из перечисленных вещей, которая для роскоши. Это все необходимо в хозяйстве как воздух. И идти в землянки и жить при лучине я не хочу категорически. Все это сделано для себя, чтобы хоть в старости пожить как человек.

Но это еще не все затраты электричества. Мы еще выращиваем для себя в хозяйстве поросят. Иначе не выжить. Покупаем пшеницу и мелем муку. Поэтому у нас есть еще минимельница, которая работает на электричестве. Иногда надо воспользоваться и электрогазосварочным аппаратом... Тоже не из любви к роскоши. Исходя из вышеизложенного, хочу задать вопрос авторам этой авантюры: думали ли вы о последствиях вашего предложения с изменением расчетов за электроэнергию для простого народа? Хотелось бы услышать ответ.

И коль уж взялась за перо, то хочется рассказать еще одну затею чиновников. В августе прислали нам счет на оплату воды. У многих вода есть, но счетчиков нет. Платили по тарифу. И вот в августе в оплату включили полив огородов за май, июнь, июль. Так и написали: за полив огорода. Когда народ стал возмущаться, местный коммунальщик предъявил соответствующее решение Гомельского облисполкома об оплате воды за полив огородов в летние месяцы. И в решении есть странная строчка: “дождевые дни не учитывать”.

Ни в какие века наш Туров не был зоной орошаемого земледелия. Ведь в двухстах метрах течет Припять. Без дождей мы не страдаем. И превратить Туров в зону орошаемого земледелия не каждый додумается. Такое под силу только чиновникам Гомельского облисполкома.

В этой связи у меня появилась мысль: возможно, у наших руководителей, начиная от самых высоких рангов и пониже, идет тайное соревнование? Чтобы переплюнуть друг друга — лишь бы досадить народу. Да так, чтобы мало не показалось. Один готов сдирать деньги с простого человека за посещение поликлиник, другой — за дождь, третий — за “лишнюю” электроэнергию. По-видимому, им премия какая-то за такие инициативы положена, коль так стараются.

Тогда и я хочу внести предложение. Ту зарплату, которую получают депутаты Палаты представителей и госчиновники, поменять на зарплату животноводов нового молочного комплекса ОАО “Туровщина”. А животноводам начислять зарплату депутатов и чиновников. Хотя бы полгода. А то комплекс работает в беспрерывном цикле, без выходных. Люди вкалывают по 12 часов. С ночной смены назавтра — в дневную. С дневной — через ночь и день — снова в ночь. При таком цикле должно быть 4 смены, а не 3. Но не видят этого ни начальники по охране труда, ни профсоюзы. Председатель Гомельского облисполкома Владимир Дворник приезжал на комплекс, но хотя бы раз поговорил с рабочими о зарплате, о том, как им работается. Начальников много, а толку нет. Сколько это будет продолжаться?

Извините, написано, может быть, сумбурно. Но справедливо!

**Людмила Савельевна**
**ЗЕМЛЯНИК.**

*г.Туров.*

МІЛАСЭРНАСЦЬ

# Дапаможам Стасі!

*Сёння ў галерэі “Беларт” адбудзецца адкрыццё дабрачыннай выставы-продажу “Help Stasya”.*



Выстава арганізавана ініцыятыўнай групай мастакоў, усе сабраныя сродкі будуць накіраваны на лячэнне Анастасіі Майстрэнка. 22-гадовая маладая мастачка, студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў, ужо тры гады змагаецца з цяжкай хваробай — ракам.

Мастачцы зрабілі дзве аперацыі, яна прайшла сем курсаў хіміятэрапіі. Наперадзе новы этап — лячэнне ў Ізраілі. Найноўшыя тэхналогіі дазволяць пазбавіць Стасю ад хваробы без верагоднасці рэцыдываў, і ў яе ёсць шанец забыць пра гэта цяжкае выпрабаванне.

Адзін з арганізатараў збору сродкаў на лячэнне мастачкі Людміла Шыдлоўская расказала пра дабрачыннае мерапрыемства: “Усе, хто ўдзельнічае ў гэтай выставе, Стасіны сябры, калегі-мастакі, якім яе лёс вельмі важны. Яны праяўляюць салідарнасць мастацкага асяроддзя. Гэта тое, што мы можам зрабіць, і тыя сродкі, якімі можам дапамагчы. Калі ў нас ёсць магчымасць прадаць работы і гэта неяк дапаможа Стасі, то мы робім гэта. Гэта такі акт салідарнасці з нашай сяброўкай-мастачкай, якая трапіла ў складаную сітуацыю.

На лячэнне ў іерусалімскай клініцы трэба сабраць 40 тысяч еўра. І хоць родныя і сябры робяць усё магчымае, сума вялікая, і сабраць яе цяжка. Таму сябры і калегі Насці вырашылі аказаць пасільную дапамогу, звярнуўшыся да поўнага арсеналу сваіх мастацкіх сродкаў”.

У экспазіцыі выставы будуць прадстаўлены работы вядомых беларускіх мастакоў, а таксама студэнтаў Акадэміі мастацтваў.

ТАК ДУМАЮ

# Символом Беларуси надо сделать березу



В последнее время в печати все чаще звучат голоса о необходимости выбора национальных природных символов Беларуси, которые могли бы использовать и государственные учреждения, чтобы подчеркнуть их своеобразие и значимость. Подобная символика существует у многих народов. Достаточно вспомнить в этой связи знаменитый ливанский кедр, канадский клен или пальму в ряде стран Латинской Америки и Африки. Изображения указанных растений или их фрагментов присутствуют на отличительных знаках этих государств. Даже на голубом флаге Организации Объединенных Наций красуется частичка природы — сплетенные в венок ветки оливы, олицетворяющие мир.

У белорусов тоже есть такой символ в растительном мире. Он официально не считается государственным, но давным-давно признан в народе как самая яркая черта отчего края. Это, конечно же, береза, белоствольная красавица наших лесов и наша общая любимица.

Меня могут поправить: береза, мол, исстари пользуется любовью всех славянских народов, а не только белорусского. Она — негласный символ всей бывшей большой Руси.

За неподражаемую красоту березу у нас нередко называют королевой лесов. Она одна из основных лесообразующих пород в стране. Ее тут даже больше, чем в России (22,2% против примерно 20). То есть каждое пятое (и даже больше) дерево в нашем лесу — береза.

Веками жизнь белоруса многими нитями связана с этим чудесным деревом. Береза соседствует с ним от рождения до смерти. Даже детские люльки в старину делались из березовой древесины. О воспитательной “березовой каше” я уже не говорю, хотя ее тоже прекрасно помнят наши отцы и деды.

В народе это дерево считается самым веселым и жизнерадостным. Береза и вправду такая. В ней все дышит здоровьем и молодостью. “В юбчонке белой” она выглядит, словно невеста в свадебном наряде.

Береза часто остается с человеком и у его последнего пристанища — на погосте. Сажать у могилы близких березку — очень древний обычай, соблюдаемый некоторыми и в наши дни. Светлое дерево — светлая память, светлая незабываемая печаль... Нет, недаром для этой цели предки выбрали именно такой символ.

Все основные наши отечественные березы (четыре вида) — белоствольные (хочу подчеркнуть это, ибо в растительном мире есть и другие цвета березовой коры). Поэтому так светло и уютно в березовой роще. Причем не только днем, но и в любое время суток.

У древних славян, включая и тех, что жили на территории теперешней Беларуси, береза была одним из наиболее почитаемых деревьев. А в дохристианские времена считалась даже священной — даром богов, оберегающих человека. Берегиней. Может быть, отсюда и пошла мода высаживать ее у родного очага.

У нас на Троицу — очень большой христианский праздник — березовыми веточками украшали избы, а в поле, в лесу или в ближайшей рощице молодые девушки наряжали юную березку лентами, заплетали на ее ветвях венки, ходили вокруг хороводом и загадывали желания. Существовало немало и других интересных обрядов, связанных с этим деревом. Рамки статьи просто не позволяют на них останавливаться.

К чему я все это говорю, думаю, читателю понятно. Береза органически вписывается в понятие “Родина”, которое складывается из самых дорогих нашему сердцу предметов, ландшафтов, традиций... Даже кусочек неба над головой и тот кажется каким-то особенным в родимом краю. Не таким, как везде. Многие из нас на вопрос “С чего начинается Родина?” ответили бы однозначно — с березы. И я с удовольствием присоединил бы к ним свой голос.

Слово “береза” увековечено в Беларуси в названиях многих городов и поселков. Есть оно и в наименованиях рек. Вспомним хотя бы знаменитую Березину, правый приток Днепра. Название ее по одной из гипотез происходит от березы, изобилующей в бассейне этой реки. Как свидетельствуют справочники, в древности ее называли Березани. А народ, живущий по ее берегам, до сих пор предпочитает говорить Береза, а не Березина. Этим словом нередко пользуются и поэты.

Дивный облик дерева с уникальной белой корой как бы перекликается и с названием самой страны. Береза давно просится в государственную символику и в символику тех международных мероприятий, которые здесь проводятся. Пора бы обратить на это внимание. В 2014 году у нас будет проходить чемпионат мира по хоккею. И символ березы тут может быть уже использован. Обращаюсь через газету к организаторам данного форума: не упустите этого случая!

**Леонид ЕМЕЛЬЯНОВ,**
**доктор**
**биологических наук.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ

## *Гэта не дапамога, а здзек*

***Калі днямі журналісты запыталіся ў кіраўніка дзяржавы, які ў Беларусі памер дапамогі па беспрацоўі, ён канкрэтна на гэтае пытанне не адказаў. Сказаў толькі, што памер яму называць нават сорамна, але і беспрацоўнымі ў Беларусі быць сорамна, бо працы хопіць усім.***

***Дык усё ж такі які памер гэтай дапамогі?***

**Ірына Паўлоўская, Мінск.**

Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі ў сталіцы на 1 кастрычніка складаў усяго 185,2 тысячы рублёў. Пра гэта афіцыйна паведамляе камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама. Гэта нават дапамогай нельга назваць — гэта проста нейкі здзек з людзей, што засталіся без працы. Больш за тое, цэны растуць, а памер дапамогі беспрацоўным зніжаецца. Так, на 1 ліпеня ён складаў 190,4 тысячы рублёў, на 1 жніўня — 190,7 тысячы, на 1 верасня — 232,5 тысячы. А цяпер і гэтых “капеек” пашкадавалі.

**Да ведама:** з 1 жніўня разліковая велічыня бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва складае 843,9 тысячы рублёў у месяц.

*«Во все времена природа власти такова, что без обмана ей никак не обойтись».*

**Екатерина II.**

З НАТУРЫ

# За ўсё трэба плаціць?

У гэты восеньскі дзень на аўтобуснай станцыі ў Дзятлаве было ўсяго некалькі чалавек. Я прыйшла крыху раней патрэбнага часу, і таму давялося чакаць аўтобус з Мінска, на якім павінна была прыехаць сваячка. На суседняй лаўцы прымастакавалася кабета гадоў сямідзесяці, па-вясковаму сціпла апранутая, відаць, прыязджала па нейкай патрэбе ў райцэнтр. Нечакана дзверы адчыніліся, і ў памяшканне зайшла яе равесніца ў дабротным чорным паліто, капялюшыку, боціках на невысокіх абцасах.

— Во, і ты тут, Альбіна, — не то здзівілася, не то проста канстатавала факт пажылая модніца. — Я нядаўна сніла цябе.

— Ці ж добрае што, ці кепскае, Кацярынка? — занепакоілася тая.

— Не добрае і не кепскае. Дзяцінства прысніла, як мы з табой кароў за выганам пасвілі.

— А, то нічога, — супакоілася Альбіна, якая, відаць, мела нервовы характар і звяртала ўвагу на ўсё-ўсякае. — Куды едзеш, гэтак прыбраўшыся?

— У Ліду. Я цяпер жыву непадалёк ад горада. Прадала ў Дзятлаве свой дом і купіла там. Праўда, дакласці яшчэ грошай давялося, ды і дом горшы за мой, але ж пры горадзе.

— Выходзіць, гараджанка ты, бачу, што модніцай стала, — з дрэнна прыхаванай зайздрасцю прамовіла Альбіна.

— А што ж нам цяпер рабіць, як не моднічаць, восьмы дзясятак размяняўшы, — пажартавала Кацярына. — Калі памятаеш, я ніколі не апраналася абы як. Хоць зарплату і невялікую атрымлівала, а ўсё старалася, каб з густам, прыгожа.

— А я што некалі, што цяпер — аднолькава, — махнула рукой субяседніца. — А цяпер — дык ужо і навошта? Старыя мы...

— Ой, не скажы! Калі старыя, то тым больш павінны за сабой сачыць. А маладосць сама па сабе прыгожая. Я так лічу.

— Добра табе лічыць, вялікую пенсію меўшы.

— Ага, вялікую, цэлы мільён трыста тысяч рублёў. Во колькі!

— Ды і я ж столькі, а ледзь зводжу канцы з канцамі. Сама ведаеш, маю два сыны і трое ўнукаў. Усе ўнукі ў горадзе вучацца, а сыны ў Дзятлаве жывуць. Як толькі ўнукі да бацькоў прыязджаюць, так і да мяне ў вёску назаўтра наведваюцца.

— То і добра, дапамогуць што па гаспадарцы, — пахваліла Кацярына.

— Дапамогуць, канешне, але ж не задарма.

— Як гэта не задарма?

— А так, што за ўсё плачу. Не толькі ўнукам, але і сынам. Атаву, вось, сын з унукам пакасілі — дала па сто тысяч рублёў. Крыху пазней другі сын з унукам прыехалі брыкет панасіць. Гэтым ужо дала па дзвесце.

— Хіба ты здурнела?! Чужыя людзі і то менш узялі б.

— А яны не ўказвалі мне, колькі плаціць, сама дала.

— Ну, то трэба было не даваць...

— Разумная ты, Кацярынка. Як не дам, то ў другі раз не прыедуць і сто прычын знойдуць, каб адмовіць. Ды свайму ж і даць не шкада, не тое што чужому.

— Я ж кажу, здурнела!

— Ды гэта яшчэ што! Сыны час ад часу забіралі маю бялізну, каб іхнія жонкі ў гэтых машынах-аўтаматах памылі, то я ўсякі раз давала ім па 50 тысяч рублёў. І то брала ў мяне памыць толькі вялікія рэчы, а меншыя рукамі я сама церла. А цяпер не даю ніякіх, бо вельмі ж дорага.

Потым, як пойдуць дні нараджэння, ды адзін за адным: сыны і ўнукі заўсёды атрымліваюць ад мяне ў падарунак па 200 тысяч рублёў, нявесткі — па 100. А то іншы раз і так унукам без дай прычыны ўсуну ў кішэнь то 40.000, то 30.000. Яны ж маладыя, ім трэба... — расказвала Альбіна.

— А табе не трэба? Бачу, што ходзіш у тым паліто, у якім 20 гадоў таму хадзіла. Ці ж твае сыны з нявесткамі дораць табе падарункі на дні нараджэння, на святы?

— Няма ў іх такой моды мне дарыць.

— Бо сама вінавата! Прывучыла, то цяпер і цягнуць з цябе жылы. А ў мяне трое дзяцей, сямёра ўнукаў, і я ім дару толькі на дні нараджэння чыста сімвалічныя падарункі. А дапамагаюць яны мне без усялякай платы, яшчэ і накрычу, калі што не так зробяць. Мой муж, як і твой, даўно памёр, самой цяжка спраўляцца, то і дзеці, і ўнукі ніколі не адмаўляюцца, нават самі пытаюць, можа, што трэба дапамагчы. Калі і прадуктаў якіх прывязуць, і грошай крыху падкінуць.

— Добра табе, — з сумам прамовіла Альбіна. — А я толькі на сваю капейчыну разлічваю.

— Чым жа ты, галубка, харчуешся, калі плаціш дзецям ды ўнукам за ўсё-ўсякае ды яшчэ і дорыш ім грошы?

— Ну чым... Крывянку ў аўталаўцы купляю, ліверку. Але гэта нячаста прывозяць. А так малаком, хлебам, батон купляю. Сала нядаўна леташняга ў суседкі купіла. Ёлкае, праўда, але мне не да прысмакаў...

— Шкада мне цябе, — з жалем зірнуўшы на субяседніцу, прамовіла Кацярына. — Прыязджай да мяне ў госці. Фігуры і рост у нас з табой аднолькавыя, вопратку якую дам. У мяне яе многа. Не хвалюйся, што на дарогу патрацішся, я білет куплю ў абодва канцы.

Яна дастала з дамскай сумачкі блакнот і аўтаручку, напісала адрас, тэлефон.

— Як будзеш ехаць, пазвані, я сустрэну ў Лідзе. А цяпер пайду куплю білет, бо хутка аўтобус, — сказала і, спрытна цокаючы абцасікамі, накіравалася да касы.

А я падумала: вось паслухала б іх размову пажылая францужанка ці немка — напэўна, за галаву ўзялася б...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

